Інфармацыйны бюлетэнь
камітэта абароны рэпрэсаваных «Салідарнасьць»




# НЯ БОЙЦЕСЯ!




www.salidarnasc.org
e-mail: info@salidarnasc.org

нумар 19 студзень 2011

## ЗАБАРОНЕНАЕ СВЯТА

Улады забаранілі ўскладанне кветак да помнікаў нацыянальным паэтам Янке Купале і Якубу Коласу некалькім сотням людзей, якія сабраліся на плошчах Менску, каб адсвяткаваць 25 сакавіка - Дзень Волі. Каля 50 чалавек былі затрыманы і правелі некалькі гадзін у пастарунках. Але ўсё ж зранку маладафронтаўскія графіці нагадалі мінчукам пра свята адраджэння беларускай дзяржаўнасці.

Удзельнікаў акцыі пратэсту супраць фальсіфікацыі прэзідэнцкіх выбараў 19 снежня 2010 году абвінавачваюць ва ўдзеле ў «масавых беспарадках» і асуджаюць да зняволення. Праваабаронцы называюць гэта паказальнай расправай.

# БЕЗ ВІНЫ абвінавачаныя

Ужо вынесеныя 7 прысудаў па так званай справе аб «масавыхбеспарадках»

**Парфянкоў Васіль** – актывіст штаба Ул.Някляева. Судом Фрунзенскага раёна г. Мінска (суддзя Вольга Комар) 17.02.2011 асуджаны да 4-х гадоў пазбаўлення волі ў калоніі строгага рэжыму.

**Атрошчанкаў Аляксандр** - прэс-сакратар передвыбарнага штаба А. Саннікава. Суддзя Фрунзенскага р-ну Менску Таццяна Чэркас 2.03.2011 вынесла прысуд: 4 гады калоніі ўзмоцненага рэжыму.

**Новік Дзмітры** --удзельнік акцыі. Суддзя Таццяна Чэркас вынесла прысуд: тры з паловай гады калоніі ўзмоцненага рэжыму.

**Малчанаў Аляксандр** – удзельнік акцыі . Суддзя Таццяна Чэркас вынесла прысуд: тры гады калоніі ўзмоцненага рэжыму.

**Брэус Арцём**, **Гапонаў Іван** – грамадзяне Расійскай Федэрацыі. Суддзя Маскоўскага суду г. Менску Любой Сямахіна вынесла 10.03.2011 аднолькавыя прысуды: пакаранне ў выглядзе штрафу памерам у 300 базавых велічынь. Вызваленыя ў залі суду.

**Мядзведзь Дзмітрый** – 10.03.2011. Суддзя Маскоўскага р-ну г. Менску Алена Рудніцкая вынесла прысуд: 3 гады абмежавання волі без накіравання ва ўстанову адкрытага тыпу.

## МЕРКАВАННІ ПРАВААБАРОНЦАЎ: ВІНА НЕ ДАКАЗАНАЯ

Па наяўных матэрыялах,якія былі прадстаўлены падчас працэсаў, праваабаронцы зрабілі адназначную выснову, што ў судзе не была доказана віна ў здзяйсненні злачынстваў, якія абвінавачаным інкрымінаваліся.





Адвакаты асуджаных звярталі ўвагу на шэраг працэсуальных парушэньняў падчас следства.

Юрыст камітэта абароны рэпрэсаваных «Салідарнасьць» **Эніра Браніцкая** дзеліцца сваімі ўражаннямі ад суду над Атрошчанкавым, Новікам і Малчанавым:

-Па справе Аляксандра Атрошчанкава ў судзе не было прадстаўлена зусім нічога.У абвінавачванні Атрошчанкава запісана, што ён нанёс «ня менш як адзін» удар у барыкаду са сталоў, якой загарадзілі ўваходы ў Дом ураду. Але нават гэты адзін удар ня быў ніяк даказаны

Саша не прызнаў віну. Няма сведкаў таго, што ён наносіў удары. Гэтага няма і на відэа. Адзін з супрацоўнікаў міліцыі сказаў, што ён запомніў яго з-за вялікага росту і шапкі.І гэта ўсе паказанні.

Малчанава вінавацяць у зьдзеку над дзяржаўнымі сымбалямі. Ягонае злачынства ў тым, што ён сарваў сьцяг. Ён гэта прызнаў. Супрацоўнікі КДБ кажуць, што дзеяньні Малчанава зафіксавалі камэры назіраньня. Але ў судзе не паказалі гэтыя здымкі. Праз 30 хвілінаў сьцяг павесілі на старое месца.

Ніхто са сведкаў-міліцыянтаў не казаў пра падпалы і ўзброены супраціў. Сведкі-міліцыянты таксама прызнаюць, што, маг чыма, у дэманстрантаў было жаданне трапіць у будынак Дому ўраду, але масавых беспарадкаў пры гэтым не было.

Мяне дзівяць дзеянні міліцыі. Яны кажуць, што падзеі на ганку Дома ўраду доўжыліся прыкладна 40 хвілінаў. Было дзьве хвалі. Міліцыя спыніла першую хвалю. Чакала. Пасьля пайшла другая хваля. І яны яшчэ чакалі некалькі хвілінаў перад тым, як спыніць дэманстрантаў. Чаму супрацоўнікі міліцыі не спынілі дэманстрантаў на самым пачат-



Хельсінскага Камітэту **Гары Паганяйла** зазначае,што хадайніцтвы адвакатаў абвінавачаных як раз і матываваліся тым, што ў справе адсутнічаюць доказы самой падзеі злачынства – масавых беспарадкаў. Сапраўды выкарыстоўваюцца тэрміны – 19 сьнежня 2010 году на плошчы Незалежнасьці адбываліся масавыя беспапарадкі, спалучаныя з гвалтам над асобай, падпаламі, пагромамі, зьнішчэннем маёмасці і ўзброеным супрацівам прадстаўнікам улады. **Як раз па кожным з гэтых паняццяў – гвалт, пагромы, падпаку?** Гэта вельмі вялікае пытанне.



--Тэза абвінавачвання пра змову паміж Атрошанкавым, Новікам і Малчанавым не знайшла ў судзе ніякага пацверджаньня,— мяркуе праваабаронца **Алена Танкачова**.

З паказаньняў супрацоўнікаў МУС не вынікае, што абвінавачаныя дзейнічалі па змове. Гэтыя сведкі таксама не паказваюць, што ўдзельнікі акцыі былі настроеныя агрэсіўна. Акрамя пашкоджанай маёмасці іншых сведчанняў няма. Але Галоўная гаспадарчая ўправа Адміністрацыі прэзыдэнта адклікала грамадзкі пазоў за матэрыяльныя страты, бо ім усё кампэнсавалі.

Шмат пытанняў узьнікае да віэаздымкаў, якія прадстаўленыя ў судзе ў якасці доказаў. Яны не суправаджаюцца хранамэтражом часу. Таму дакладна нельга вызначыць, што калі адбывалася. А гэта вельмі істотна, каб суд якасна разабраўся ў справе.

Так і не былі выяўленыя факты нейкіх масавых беспарадкаў 19 сьнежня. **Нават сведкі з КДБ і міліцыі прызнавалі, што акцыя насіла мірны характар, за выключэннем інцыдэнту з шыбамі.** У прыватнасці міліцыянт **Мікалай Шаўко** «зброяй» дэманстрантаў назваў толькі вудзільны, на якіх яны носяць сцягі, і якімі адбіваліся ад спэцназу ў той вечар.

Праваабаронца Беларускага

## СФАБРЫКАВАНАЯ СПРАВА

24 сакавіка лідэр «Маладога фронту» 29-гадовы **Дзьмітрый Дашкевіч** быў прыгавораны да двух гадоў пазбаўленьня волі ў калёніі агульнага рэжыму, актывіст гэтай арганізацыі 22-гадовы **Эдуард Лобаў** — да чатырох гадоў у калёніі ўзмоцненага рэжыму. Яны прызнаны вінаватымі на падставе часткі 3 артыкула 339 Крымінальнага кодэкса (асабліва злоснае хуліганства).

Дашкевіча і Лобава затрымалі 18 снежня, за дзень да падзей на Плошчы. Хлопцаў прызналі вінаватымі ў злосным хуліганстве -- збіцці дзвюх асобаў на вуліцы. Акалічнасці іх арышту, што адбыўся напярэдадні прэзыдэнцкіх выбараў , праваабаронцы лічаць вельмі падазронымі. Звяртае увагу той факт, што адвакат, які першапачаткова пагадзіўся абараняць Дашкевіча, быў выключаны са складу Мінскай гарадзкой калегіі адвакатаў пад націскам Міністэрства юстыцыі.

Праваабаронцы выказалі меркаванне, што двое «пацярпелых»,якія ў зале суду так і не паказалісь — гэта так званыя «ціхушнікі», асобы, завербаныя спецслужбамі для правакацый. На думку назіральнікаў, гэта могуць быць дэкласаваныя элементы, залежныя ад алкаголю.

Праваабаронца **Уладзімер Лабковіч**:

-Безумоўна, хоць гэтая крымінальная справа і стаіць асобна ад справаў 19 сьнежня, тут мы таксама бачым палітычны пераслед, як і ў справах тых, хто праходзіць па «масавых беспарадках». Тое, што мы бачылі і чулі ў судзе, не даказвае віны Дашкевіча і Лобава. Відавочна, што яны сталі ахвярамі правакацыі.У дачыненьні да іх спэцслужбы ўжылі сваю клясычную тактыку, і была спроба прэвэнтыўнага затрыманьня, каб не дапусьціць іх актыўнага ўдзелу ў мірнай акцыі 19-га. І затым вырашылі перафармуляваць і «прыдумаць» крымінальную справу, якой насамрэч не было, і вось так жорстка пакараць гэтых моладзевых актывістаў, што, канечне, выклікае асуджэньне.

**Яшчэ раз падкрэсьліваю: гэта палітычныя рэпрэсіі пры наяўнасьці ў краіне залежнага суду, які становіцца проста адным з ланцугоў гэтых рэпрэсій.**

# ПРАГРАМА КАЛІНОЎСКАГА — ПРАГРАМА САЛІДАРНАСЦІ

59 маладзёнаў сталі удзельнікамі адмысловага дадатковага набору на Праграму Каліноўскага,які стартаваў 21 сакавіка гэтага году. Да верасня яны будуць слухачамі Падрыхтоўчых курсаў польскай мовы і культуры ў трох гарадах: Варшаеве, Кракаве і Ўроцлаве, а потым атрымаюць размеркаванне на вучобу у польскія ВНУ.

На ўрачыстым адкрыцці праграмы ў Міністэрстве замежных спраў Польшчы прысутнічалі міністр навукі і вышэйшай адукацыі **Барбара Кудрыцка**, намеснік міністра замежных спраў К**шыштаф Станоўскі**, дырэктар Інстытута Ўсходняй Еўропы Варшаўскага універсітэта, кіраўнік праграмы Каліноўскага **Ян Маліцкі**, лідэр Руха «За Свабоду» **Аляксандр Мілінкевіч**, кіраўніца Камітэта абароны рэпрэсаваных «Салідарнасьць» **Іна Кулей**.

**Барбара Кудрыцка** паведаміла, што больш за сто рэктараў універсітэтаў з усёй Польшчы адгукнуліся сёлета на заклік прыняць на вучобу беларускіх студэнтаў. Арганізатары праграмы выбралі найлепшыя навучальныя установы з пункту гледжання ўзроўню выкладання і ўмоў студэнцкага жыцця. Каб студэнты з Беларусі не заставаліся

**Праграма К.Каліноўскага была заснавана як рэакцыя салідарнай Польшчы на падзеі ў Беларусі пасля прэзідэнцкіх выбараў 30 сакавіка 2006 года і падпісана Аляксандрам Мілінкевічам і Казімежам Марцінкевічам, зацверджана Канферэнцыяй рэктараў польскіх акадэмічных школ (KRASP) і канферэнцыяй рэктараў польскіх універсітэтаў.**



# Новыя каліноўцы. Хто яны?



Большасць новых стыпендыятаў гэта юнакі ва ўзросце ад 18 да 23 гадоў, актывісты грамадскіх аб'яднанняў і перадвыбарчых штабоў незалежных кандыдатаў у прэзідэнты.Адразу пасля падзей 19 снежня шмат з іх апынуліся пад пагрозай крымінальнага пераследу і удзел у праграме дае ім шанец не толькі аднавіць вучобу, спыненую падчас сесіі, але і пазбегнуць кратаў.

**Мікіта Красноў,Уладзімір Кумец і Павал Маркаўцоў** – новыя каліноўцы расказваюць, якімі шляхамі яны апынуліс на праграме.

**Мікіта Красноў**: Падчас выбарчай кампаніі я быў даверанай асобай кандыдата ў прэзідэнты Алеся Міхалевіча. 27 снежня падчас вобшуку мне прад'явілі пастанову, што я з'яўляюсь абвінавачаным па крымінальнай справе "аб масавых беспарадках". Сітуацыя прымушала рабіць хуткія крокі і я з'ехаў у Вільню.Першаснае пытанне было –выжыць за мяжой пакуль дома ідуць суды і працэсы.Тады здавалась,трэба пачакаць некалькі тыдняў і ўсё скончыцца, але прайшло тры месяцы...

У віленскім Доме Правоў чалавека нас сабралось каля 20 чалавек –прадстаўнікі розных перадвыбарчых штабоў.У выгнанні мы ўсе дапамагалі адзін аднаму, бо экстрэмальныя умовы існавання часам не лягчэй за турму.Аднойчы давялось на працягу тыдня 5 разоў мяняць месца начлегу, бо не было чым плаціць за жытло.Мы маглі разлічваць толькі на дапамогу бацькоў,таму што ўсе нашы паплечнікі сядзелі на той момант у следчым ізалятары КДБ. Пражытага за 3 месяцы ў Вільне, мабыць, хопіць на ўсё жыцце.Але было шмат пазітыўных уражанняў,мы адчувалі моцную салідарную падтрымку з боку віленскіх студэнтаў, літоўскага грамадства наогул. Калі я прыехаў да Вільні, у мяне было 28 сяброў у facebook, а зараз іх больш за 400!

**Уладзімер Кумец**: Праблемы пачаліс яшчэ ў лістападзе 2010, калі мяне выключылі з 5 курсу універсітэту за працу каардынатарам кампаніі "Гавары праўду".Падаваў неаднаразова ў суд,аднак

замкненымі і атрымалі магчымасць не толькі займацца навукай , але поўнасцю ангажавацца ў акадэмічнае асяроддзе.

Удакладняючы ўмовы навучання беларускіх студэнтаў, дырэктар праграмы **Ян Маліцкі** падкрэсліў асаблівае дабразычлівае стаўленне да іх з боку прафесарска-выкладчыцкага састава ўніверсітэтаў. Для ўдзельнікаў праграмы ўводзяцца пэўныя палёгкі: пісьмовыя тэставыя іспыты заменяюцца на вусныя, па жаданні студэнта на беларускай, расейскай, ці ангельскай мовах.Кожны студэнт будзе атрымліваць штомесяц стыпендыю, пэўная сума будзе выдзелена на набыццё падручнікаў.



**Аляксандр Мілінкевіч**, звяртаючыся да новых стыпендыятаў, зазначыў, што Польшча робіць больш за астатнія краіны, каб падтрымаць свабоду ў Беларусі.

-У самой Польшчы зараз шмат эканамічных праблем, але я нідзе не чуў ад ніводнага жыхара Польшчы скаргаў, чаму яны павінны бясплатна навучаць беларусаў. Палякі адчуваюць, што мы братнія народы – у добрым сэнсе гэтага слова.У нас стагоддзі супольнай гісторыі, у нас агульныя паэты і героі, якія змагаліся “за вашу і нашу свабоду”.

Тое, што на сустрэчу з вамі прыйшлі два міністры, гаворыць аб вялікай павазе да вас і спадзяванні, што вы станеце будучай элітай краіны.Не так складана зруйнаваць старое, як зрабіць крокі наперад. Вось тады новай Беларусі спатрэбяцца вашыя веды, ваш досвед, вашы сувязі з палякамі.

**Кшыштаф Станоўскі** сказаў на заканчэнні:

-Тое,чаму мы сустрэліс менавіта тут і менавіта ў гэты час можна назваць адным словам—салідарнасць. Салідарнасць – гэта тое, чым Польшча вядома ў свеце. Сэнс гэтага слова палягае перш за ўсё ў тым, што лёс іншай асобы і іншага народу для цябе не менш важны, чым лёс асабісты і лёс твайго народу.

Беларусь – краіна, дзе ў кожнага паляка шмат знаёмых, шмат сяброў. Людзі ў Беларусі сёння апынуліс у сітуацыі, якая вельмі нагадвае сітуацыю 80-х гадоў у Польшчы.Тыя, хто прагнуў, каб краіна пайшла па дэмакратычным шляху развіцця, добра ўмелі ладзіць акцыі пратэсту, мітынгі, выдаваць падпольныя газэты. Але яны не былі падрыхтаваны да таго, каб выбудоўваць стратэгію далейшай мадэрнізацыі краіны. Сыходзячы з уласнага досведу,мы разумеем, што падтрымліваць дэмакратыю значыць дапамагаць людзям самастойна вызначаць сваё развіццё.Таму праграма Каліноўскага, па якай навучаюц-

**У першым годзе дзейнасці праграмы былі прынятыя на вучобу 244 асобы на 77 розных напрамках. З іх 22 чалавека ў 2010 годзе атрымалі дыплём магістра.У 2011годзе такі дыплём атрымаюць яшчэ 78 чалавек .**

мае скаргі не разгледжваліся.

18 снежня да мяне прыйшоў міліцыянт з папярэджваннем, каб не удзельнічаў у акцыі пратэсту, маўляў, будуць наступствы.Пасля выбараў давялося некалькі дзен хавацца па розных кватэрах,потым з’ехаць за мяжу.

У эміграцыі жыць вельмі цяжка не толькі ў матэрыяльным, але і ў маральным плане. Вельмі сумна становіцца часам, так што хочацца ўсё кінуць і паехаць назад да хаты, не думаючы пра наступствы.Дзякуй богу, што з’явілась магчымасць працягнуць адукацыю па праграме Каліноўскага. Плануючы за адзін год скончыць навучанне на факультэце міжнародных адносінаў Варшаўскага універсітэту—і ехаць дадому ў Беларусь,там жыць.

**Павал Маркаўцоў**: Я працаваў намеснікам кіраўніка моладзевага аб’яднання “Рух у будучыню”, маю прафесію палітолага(скончыў год таму юрфак БДУ).Падчас выбараў працаваў у штабе Раманчука,у грамадскай ініцыятыве “Грамадзянін”.

20 снежня амапаўцы штурмам уварваліся ў наш офіс і ўсіх затрымалі. Толькі дзякуючы ўмяшальніцтву АБСЕ, журналістаў, нас праз 3 гадзіны адпусцілі.

З канца снежня я знаходзіўся ў Вільне. Даводзілась жыць у розных умовах, нават у халоднай будаўнічай бытоўцы без вокнаў і вентыляцыі,без магчымасці прыгатаваць сабе ежу. Але пры гэтым я разам с сябрамі адчуваў,што не застаўся сам на сам са сваімі праблемамі,што шмат людзей за мяжой імкнецца падтрымаць наша існаванне.Літоўскія ўлады зрабіла шматразовыя візы нашым сваякам, каб дапамагчы сустрэцца, дапамагала і чэская арганізацыя”Чалавек у бядзе”, камітэт абароны рэпрэсаваных “Салідарнасьць”.Зараз я атрымаў дакументы,што прыняты на праграму Каліноускага і прыехаў у Варшаву.Пакуль буду вывучаць польскую мову,а потым вырашу, куды пайсці далей—у магістратуру, ці аспірантуру.Буду працягваць вучобу,каб не марнаваць час.

# ПРЭМІЯ ДЛЯ НАСТЫ



8 сакавіка Часовы паверaны ў справах ЗША ў Беларусі *Майкл Скэнлан* перадаў 20-гадовай Насты Палажанцы, намесніцы старшыні "Маладога Фронту" прэмію за мужнасьць Хілары Клінтан. Сама Наста не змагла паехаць на ўрачыстую цэрэмонію ў Вашынгтон, бо знаходзіцца пад падпіскай аб нявыезде і атрымала ўзнагароду у Менску.

У сваім слове ўдзячнасці Наста адзначыла, што ўспрымае гэту прэмію як узнагароду не толькі ёй, але і іншым мужным жанчынам, якія знаходзіліся зь ёй за кратамі - **Ірыне Халіп** і **Натальле Радзінай**. Безумоўна, прэмія паслужыць маральнай падтрымцы грамадзянскай супольнасьці на Беларусі, змаганню беларускіх жанчын за свабоду, дэмакратыю, справядлівасьць.

Упершыню ў гісторыі міжнароднай прэстыжнай прэміі, якая існуе з 2007 году і за час існаваньня якой былі адзначаны 38 жанчын, ёй узнагароджана беларуска.

У Вашынгтоне публічна зачытаюць прамову **Насты Палажанкі**

Акрамя Насты Палажанкі, прэміяй за мужнасць уганараваныя Прэзыдэнт Кыргызтана **Роза Атунбаева**, камерунская журналістка **Генрыета Эквэ Эбонга**, **Марысэла Маралес Ілбанэз** – намесніца Генеральнага пракурора па расследваньнях арганізаванай злачыннасці (Мэксіка) і іншыя годныя жанчыны сусвету.

Павіншаваць Насту Палажанку прыйшлі родныя, прадстаўнікі праваабарончых арганізацый, журналісты, яе сяброўкі па "Маладым Фронце". З прыемнасьцю ўспрыняў узнагароду дачцэ яе бацька, Уладзімір Палажанка. Менавіта ён прыклаў шмат намаганьняў для яе выхаваньня і адукаваньня.

Ён верыць, што ўзнагарода прыцягне ўвагу міжнароднай супольнасьці да лёсу Насты, што можа зьмягчыць прысуд ёй у судовым разбіральніцтве па справе ад 19 снежня. Дзеля вызваленьня Насты з турмы КДБ за яе паручыліся дзесяткі жыхароў Менска.

# АБ ГЭТЫМ НЕЛЬГА МАЎЧАЦЬ



Сур'ёзную трывогу ў праваабаронцаў «Салідарнасьці» выклікаюць умовы ўтрымання ў Следчым ізалятары (далей СІЗА) КДБ (220050, Менск, вул. Камсамольская, 30,) і СІЗА № 1 (220030 г.Менск, вул. Валадарскага. д. 2) затрыманых пасля падзей 19 снежня ў рамках крымінальнай справы па арт.293 Крымінальнага Кодэкса Рэспублікі Беларусь (Масавыя беспарадкі).

Затрыманым не аказваецца неабходная медыцынская дапамога як у СІЗА КДБ, так і ў СІЗА №1.

Адна з ахвяр была прывезеная ў СІЗА КДБ з траўмай. Аднак у медыцынскай дапамозе ёй было адмоўлена. Наступствы траўмы выяўляліся досыць доўгі час, але ў медыцынскай дапамозе працягвалі адмаўляць.

**Зміцер Буланаў** мае сур'ёзнае хранічнае захворванне (вальвуліт мітральнага клапана) і ўтрымоўваецца ў СІЗА № 1. З-за холаду ў камеры захворванне Зміцера пачало абвастрацца аж да немагчымасці перасоўвацца па камеры з-за моцных боляў у суглобах. Звароты па медыцынскую дапамогу да адміністрацыі ўстановы, як з боку Зміцера, так і з боку яго маці доўгі час ігнараваліся.

Мужчыны ў СІЗА КДБ падвяргаюцца катаванням і зневажаючаму чалавечую годнасць звароту.

Затрыманых мужчын выводзяць з камер, прымушаюць распранацца дагала і рабіць фізічныя практыкаванні або стаяць каля гадзіны ў становішча «расцяжкі» (тварам да сцяны, ногі максімальна рассунутыя ў бакі, рукі ўверх). Пры допытых рукі апраналі ў наручнікі і выварочвалі максімальна высока назад.

Асобнай праблемай з'яўляецца адсутнасць туалетаў у камерах СІЗА КДБ. Усіх, якія змяшчаюцца ў СІЗА выводзяць у туалет толькі раніцай і ўвечар, літаральна на некалькі хвілін. У задавальненні дадатковых просьбаў вывесці ў туалет супрацоўнікі часцяком адмаўляюць, што з'яўляецца катаваннем і прыводзіць да зневажальнага чакання наступнай магчымасці схадзіць у туалет.

Тэмпература паветра ў следчых ізалятарах у сярэднім каля 10 градусаў. Усім ахвярам прыходзіцца спаць у верхняй адзежы і некаторыя захворвалі вострым бранхітам,запальваннем суглобаў і атытам.

Гэтак жа выклікае трывогу той факт, што дагэтуль пракуратурай не ўзбуджана ні адна крымінальная справа па фактах катаванняў у стаўленні грамадзян, якія былі збітыя супрацоўнікамі праваахоўных органаў 19 снежня на плошчы Незалежнасці. Праверкі па дадзеных справах падаўжаюцца. Расследаванне зацягваецца, тым самым не прадпрымаюцца меры па аператыўным зборы доказаў, якія могуць быць згубленыя. Супрацоўнікі міліцыі, якія затрымлівалі дадзеных грамадзян вядомыя, але дагэтуль працуюць у міліцыі, што яшчэ больш выклікае занепакоенасць праваабаронцаў. Паколькі гэтыя супрацоўнікі міліцыі могуць ужываць катаванні да іншых грамадзян.





# Маці за сына

Абвінавачаны па справе аб «масавых беспарадках» Дзмітры Буланаў патрабуе сур'ёзнага лекавання и догляда.

Турбуецца аб стане здароўя сына маці Клаўдзія Буланава.

Прыгожая, далікантая пані Клаўдзія расказвае пра свайго сына з любоўю.

Яе Дзмітрый нарадзіўся ў 1984 годзе. Яна імкнулася, каб ён гадаваўся ў культурнай, інтэлігентнай абстаноўцы. Клаўдзія Якаўлеўна - кандыдат біялагічных навук, займалася даследваннямі, звязанымі з радыёбіялогіяй, працавала сумесна з медыкамі, мае вялізны навуковы досвед. Рознабакова адораная натура, яна ў свой час выступала ў тэатры, грала на розных інструментах.Чуйны сын таксама авалодаў тонкасцямі музыкі.

Па прыкладу маці Дзмітрый у юнацтве вырашыў абраць гуманную прафесію медыка. У Мінску скончыў другі медыцынскі каледж і стаў медбратам. Два гады пасля размяркавання Дмітрый працаваў у Мінскім інфекцыйным шпіталі з хворымі гепатытам і СНІДам.Суткавыя дзяжурствы былі частымі, а заробкі – на здзек нізкімі. Потым другое захапленне ў яго жыцці пачало пераважаць, і ён паступіў вучыцца ў Мінскі інстытут сучасных ведаў на эстраднае аддзяленне.

Сын сур'ёзна займаўся музыкай, граў на гітары, у 2010 годзе запрасіў музыкаў да стварэння музычнага калектыва. Яго цікавіць эстраднае аўтарскае выкананне і менэджмент музычнай дзейнасці.

19 снежня 2010 года Дзмітрый апынуўся на Плошчы разам з іншымі. «Паколькі ён не належаў да палітычных партый і моладзевых арганізацый, то перасоўваўся па ўсёй плошчы і цікавіўся, што адбываецца, і таму патрапіў на відэа ў розных месцах», - патлумачыла маці.

Позна ўвечары пры разгоне натоўпу людзей ён атрымаў траўму галавы, быў затрыманы і асуджаны на 10 сутак.

З Акрэсціна на "хуткай" хлопца завезлі ў бальніцу, дзе яму аказалі дапамогу.У паперах фальшыва засведчылі "ушел самостоятельно домой", насам рэч ён быў зноў дастаўлены на Акрэсціна. Па вызваленні 11 студзеня хлопца выклікалі ва Фрунзенскі РУУС «паразмаўляць» да следчага і зноў арыштавалі.

26-гадовы Дзмітрый знаходзіўся ў Сіза №1 на вул.Валадарскага, у перапоўненай камеры.З-за знешняга падабенства крымінальнікі далі яму мянушку - Чэ Гевара. Умовы былі вельмі дрэнныя, холад, сразнякі. У Зміцера абвастрылася хранічнае захворванне, узніклі праблемы з сэрцам і ныркамі, здарылася рэўматычная атака. Лекі ў турму прынімалі не ўсе. Малады чалавек ляжаў у ізалятары і не мог хадзіць. Маці тэрмінова звярнулася да лекараў і запатрабавала даследвання ў клініцы.Клаўдзія Буланава дамаглася,каб змяніць меру стрымання.10 сакавіка Дзмітрыя перавялі ў Рэспубліканскую турэмную клініку на Кальварыйскай на лячэнне.

Клаўдзія Якаўлеўна кажа, што калісьці чытала «Архіпелаг ГУЛАГ» і не змагла дачытаць, плакала. Цяпер жыццё нагадвае старонкі з жахлівай гістарычнай эпапеі. Маці падтрымлівае сяброўка Дзмітрыя, дапамагае ёй насіць перадачы, знаходзіцца побач. Аказваюць дапамогу праваабаронцы.

Менавіта такі чалавек, як Дзмітрый, той,хто быў спачувальны і літасцівы да хворых, заслугоўвае добрага лекавання і належнага догляду.

Маці будзе працягваць змаганне за сына. Каб ён здужаў, каб па вызваленні змог зноў вярнуцца да сваіх прыхільнасцяў у творчасці і жыцці.





# ПАМЯТКА МАЛАДОМУ ПРЫЗЫЎНІКУ

## ПОЗВА

Грамадзяне абавязаныя атрымаць позвы (кірункі) ваенкамата пад распіску. У выпадках нез'яўлення без паважлівых чыннікаў, міліцыя ажыццяўляе прывад гэтых асоб у ваенкамат.

Паважлівымі чыннікамі з'яўляюцца: калецтва або захворванне граж-на (згуба ім працаздольнасці); цяжкі стан здароўя чальцоў сям'і, апякуна альбо ўдзел у пахаваннях паказаных асоб; перашкода, узніклае ў выніку дзеяння непераадольнай сілы, іншая акалічнасць, не якое залежыць ад волі граж-на; або чыннікі, прызнаныя паважлівымі прызыўнай камісіяй (вайскоўцам камісарам) або судом. У выпадку ўхілення грамадзян ад закліку прызыўная камісія накіроўвае матэрыялы пракурору для рашэння пытання аб прыцягненні іх да адказнасці. Рашэнне камісіі можа быць абскарджана са дня атрымання копіі ў абласную (Менскую гарадскую) прызыўную камісію або ў суд. Рашэнні камісіі прыпыняецца да вынясення рашэння вышэйстаячай прызыўнай камісіяй або ўступы ў законную сілу рашэння суду.

## АДТЭРМІНОЎКА АД ПРЫЗЫВУ

па стане здароўя - падаецца грамадзянам, прызнаным часова непрыдатнымі да ваеннай службы па стане здароўя, на тэрмін да аднаго гады.

для працягу адукацыі падаецца:

Грамадзянам, адлічаным за парушэнне дысцыпліны, непаспяховасць з вучэбных устаноў, у тым ліку змешчаным за мяжой, незалежна ад формы атрымання адукацыі - паўторная адтэрміноўка ад закліку для працягу адукацыі не падаецца.

Адтэрміноўка па сямейным становішчы падаецца грамадзянам, якія маюць:

непрацаздольных бацькоў альбо іншых чальцоў сям'і, якія жывуць у нястачы ў староннім сталым сыходзе і не змешчаных на поўным дзярж.забеспячэнні, - пры адсутнасці іншых працаздольных асоб; жонку падчас цяжарнасці; жонку і дзіцяці ў веку да трох гадоў; жонку - інваліда I або II групы; дзіцяці-інваліда; дзіцяці, воспитывающегося без маці; двух або больш дзяцей; маці або бацька, не якія складаюцца ў шлюбе і не мелых іншых працаздольных дзяцей; аднаго або больш родных братоў і сясцёр у веку да 18 гадоў пры адсутнасці іншых асоб, якія маглі бы ўзяць іх на ўтрыманне.

калі закліку на тэрміновую ваенную службу падлягаюць два сына адначасова, па жаданні бацькоў адтэрміноўка ад закліку падаецца аднаму з іх.

Адтэрміноўка для атрымання ваенна-тэхнічных спецыяльнасцяў падаецца грамадзянам на перыяд навучання.

Адтэрміноўка ў сувязі з ажыццяўленнем грамадзянамі дэпутацкіх паўнамоцтваў падаецца ім на тэрмін іх паўнамоцтваў.

Грамадзне якія страцілі падставы, па якіх яны атрымалі адтэрміноўку ад закліку на тэрміновую ваенную службу, заклікаюцца ў парадку, усталяваным Законам.

З грамадзянамі, маючымі правы на адтэрміноўку (за выключ. грамадзян па стане здароўя), могуць праводзіцца мерапрыемствы па мёдычнаму агляду да тэрміна адтэрміноўкі ад закліку.

## АДМІНІСТРАЦЫЙНАЯ АДКАЗНАСЦЬ ПРЫЗЫЎНІКОЎ

Паводле арт. 25.1. Кодэкса аб адміністрацыйных правапарушэннях нез'яўленне ў ваенкамат па выкліку без паважлівага чынніку для прыпіскі да прызыўнага ўчастку - штраф ад 2-х да 3-х баз.велічынь. Тое ж дзея паўторна на працягу 1-го гады вабіць штраф ад 4-х да 6-ти баз.велічынь. Нез'яўленне без паважлівых чыннікаў на мерапрыемствы закліку на воінскую службу па позве (кірунку) ваенкамата або ў тэрміны, усталяваныя заканадаўствам, калі дадзенае нез'яўленне не перашкодзіла прыняццю і (або) рэалізацыі рашэння прызыўнай камісіі (вайскоўца камісара) аб выкананні грамадзянінам воінскага абавязку, - вабіць папярэджанне або штраф да 5-ти баз.велічынь.

(Артыкул 25.8. Парушэнне абавязкаў па воінскім уліку).

## КРЫМІНАЛЬНАЯ АДКАЗНАСЦЬ

Паводле ч.1 арт. 435 КК РБ - ухіленне ад мерапрыемстваў закліку на воінскую службу караецца штрафам, або арыштам на тэрмін да 6-ти мес. або абмежаваннем волі на тэрмін да 2-х гадоў, або пазбаўленнем волі на той жа тэрмін. У адпаведнасці ч.2 арт.435 КК РБ ухіленне ад мерапрыемстваў закліку на воінскую службу, шляхам наўмыснага прычынення сабе целавага пашкоджання, сімуляцыі хваробы, падробкі дакументаў або іншага зману, - караецца абмежаваннем волі або пазбаўленнем волі да 5-ти гадоў.

Крымінальная адказнасць надыходзіць і за ўхіленне рэзервіста або ваеннаабавязанага ад яўкі на зборы (заняткі) (ч.1 арт.436 КК). За дадзенае злачынства штраф, або выпраўленчыя працы да 1-го гады, або арыштам на тэрмін да 3-х мес. Калі грамадзянін ухіляецца ад яўкі на зборы шляхам наўмыснага прычынення сабе целавага пашкоджання, сімуляцыі хваробы, падробкі дакументаў або іншага зману. Адказнасць за гэта - штраф, або арышт да 6-ти мес., або абмежаваннем волі да 2-х гадоў.

Ухіленне прызыўніка або ваеннаабавязанага вабіць крымінальную адказнасць (арт.437 КК). За гэта надыходзіць адказнасць - штраф або арышт да 3-х мес. Прызыўнік, рэзервіст або ваеннаабавязаны, упершыню здзяйсняючы дзеянні, прадугледжаныя ч. 1 арт.435, ч. 1 арт 436, арт. 437 КК, могуць быць вызваленыя ад адказнасці, калі зробленае з'явілася следствам збегу цяжкіх акалічнасцяў.

Да цяперашняга часу зака-

www.salidarnasc.org
Менск, 220005, а/с 148. e-mail: info@salidarnasc.org
Отпечатано с диапозитивов в типографии «Нева», г.Санкт-Петербург, ул.Герцена, 22 Заказ№6722, тираж299